# наша свабода

№73(160) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

16 ЛІПЕНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Шарэцкі з'ехаў у Амерыку

Старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі вырашыў змяніць сваё месца жыхарства, паведаміла агенцтва «Интерфакс». З Літвы, дзе ён жыў з 21 ліпеня 1999 году, спікер парламента перабраўся ў ЗША. Пра гэта распавёў сакратар літоўскай Асацыяцыі па правах чалавека Стасіс Каўшыніс.

Як вядома, пасля таго, як у А.Лукашэнкі скончыўся легітымны прэзідэнцкі тэрмін, С.Шарэцкі як кіраўнік адзінай легальнай галіны ўлады палічыў за лепшае для сябе з'ехаць за мяжу. Сам спікер тлумачыў гэта той небяспекай для жыцця, якая пагражае яму ў Беларусі.

Тагачасны старшыня Сейма Літвы, у мінулым — першы кіраўнік незалежнай Літоўскай Рэспублікі — Вітаўтас Ландсбергіс зрабіў шмат намаганняў, каб паспрыяць свайму калегу. Дзякуючы В.Ландсбергісу ў С.Шарэцкага ў Літве з'явіліся «нармалёвыя» ўмовы для жыцця і нават адмысловая ахова.

Але, відаць, Сямён Шарэцкі не адчувае сябе ў Вільні ў дастатковай бяспецы. Цяпер жа, мусіць, ён можа супакоіцца – Амерыку далей за Літву.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Чешский опыт оптимизма

*Интервью с Леонидом Миндлиным*

стр.7

# Таямніца становіцца яўнай





## Ганчарык прад'яўляе кампрамат на ўладу

Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Ганчарык мае дакументы, якія пацвярджаюць дачыненне некаторых службовых асобаў да знікнення апазіцыйных палітыкаў. Пра гэта ён заявіў 13 ліпеня на прэс-канферэнцыі ў штаб-кватэры ФПБ. Паводле словаў Ганчарыка, наяўныя ў яго ксеракопіі дакументаў датычацца знікнення ў 1999 годзе былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі, намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Віктара Ганчара і бізнесмена Анатоля Красоўскага. На прэс-канферэнцыі Уладзімір Ганчарык прадэманстраваў журналістам ксеракопію рукапіснага тэксту, які, паводле яго словаў, з'яўляецца рапартам начальніка галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі МУС генерал-маёра Мікалая Лапаціка міністру ўнутраных справаў Уладзіміру Навумаву.

*Заканчэнне на стар.3*

## Навумаў не ведае, дзе Завадскі

13 ліпеня міністр унутраных справаў Беларусі Уладзімір Навумаў правёў прэс-канферэнцыю, прысвечаную дзейнасці ягонага ведамства.

### Справу перадалі ў суд

Падчас прэс-канферэнцыі Уладзіміру Навумаву задавалася мноства пытанняў па справах аб знікненні Дзмітрыя Завадскага, Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі. Аднак практычна нічога новага накont гэтага міністр не паведаміў.

Ён толькі адзначыў, што 12 ліпеня крымінальная справа па знікненні Завадскага перададзеная ў суд.

*Заканчэнне на стар.3*

# Молчание генерала Мацека

## *Бывший шеф КГБ разочаровал многих своих подчиненных*

Официальное сообщение о назначении генерал-лейтенанта госбезопасности Владимира Мацкевича послом в Югославию, похоже, закрыло еще одну страницу противостояния режиму личной власти Лукашенко. Все слухи об оппозиционности экс-председателя КГБ так ими и остались. Он продолжает безропотно служить нынешнему режиму.

Произведенная Лукашенко 27 ноября прошлого года, за несколько дней до приезда Путина в Минск, операция по смещению председателя КГБ и некоторых других силовиков обнажила противостояние спецслужб. Говорят, на следующий день Мацкевич и смещенный вместе с ним один из заместителей уже не смогли попасть в свои рабочие кабинеты, чтобы забрать личные вещи и кое-какие бумаги. Надо полагать, столь захватывающую операцию провели Служба безопасности президента и верные спецназовцы из Внутренних войск МВД. Собственно, из-за них то и разгорелся весь сыр-бор. Как известно, их комбриг был арестован чекистами по подозрению в причастности к исчезнувшим известным людям. В общем, представляя Ерина в качестве нового председателя КГБ, Лукашенко подчеркнул: происшедшие события призваны были продемонстрировать, что чекисты и остальные под его действенным контролем. И никакой оппозиции себе в КГБ он не допустит. Некоторые в частных разговорах поясняли, что якобы оппозиционность этого некогда могущественного ведомства заключалась лишь в стремлении соблюсти законность. Стоит вспомнить, как в приснопамятном 37-м году люди репрессировались по существовавшим законам. Другой вопрос, насколько деятельность зловещего НКВД находилась в правовых рамках. Как отметил ставший в открытую оппозицию режиму другой чекистский генерал Валерий Кез, в КГБ сохранена хорошая историческая память. Теперь трудно сказать, разделяет ли такое мнение замолчавший экс-шеф КГБ. И продолжают ли его сослуживцы между собой уважительно называть его Мацеком. Многих из них он разочаровал. А по мнению экс-главы президентской Администрации Леонида Синицына, настроив своих подчиненных на критический лад к происходящему произволу, Мацкевич оказался непрофессионалом и попросту предал поверивших в его людей.

Можно вспомнить, как после своего смещения один раз Мацкевич с супругой появился перед публикой. Придя на спектакль в один из белорусских театров, он, видимо, хотел кому-то дать понять, что не намерен прятаться. Позже стала циркулировать информация, что чекистского генерала Лукашенко решил направить послом в Белград. Еще недавно он сам мог туда ездить к собрату Милошевичу. Времена изменились, и непросто ответить на вопрос: какой опыт приобретет Мацкевич в Белграде и востребуется ли таковой на родине нового белорусского посла? Из разных источников периодически появлялась информация, что Мацкевич нарочито ушел в отпуск после полученного от сербов агремана и проводит серии встреч в Москве, с разными людьми, на темы будущего Беларуси без Лукашенко. Встречался он и с некоторыми претендентами на пост президента Беларуси. По информации компетентного источника, московские встречи Мацкевича оказались безрезультатными. Ему несколько раз отказал в аудиенции человек N2 в российском руководстве, коим считают министра обороны Сергея Иванова. Но даже после этого многие в Минске продолжали ждать, что генерал Мацек превзет свое молчание и расскажет публично о деяниях правящего режима. К великому сожалению, этого не произошло. То ли коллеги-чекисты из Москвы не дали каких-то гарантий, то ли в Кремле другие виды на Беларусь появились. Были, правда, робкие попытки оправдать такое поведение Мацкевича состоянием его здоровья. Не секрет, что он неоднократно проходил курс дорогостоящего лечения в Германии. Понятно, что оплатить довольно крупные суммы валюты за лечение могло только государство. Вернее, специальный президентских фонд, об объемы которого мало кому известны. Надо полагать, среди незнакек про это Путин не значится. По словам Синицына, некогда его президент Лукашенко является самым богатым человеком в СНГ. С богатого плеча экс-шефу КГБ жизнь и продлили. И тут как-то прозвучала одна историческая аналогия. Александр Федута вспомнил, что тяжелая болезнь Андропова не помешала ему убрать днепропетровский клан из Кремля. Будучи злым на язык журналистом, Федута сказал, что Мацкевич оказался всего лишь председателем федерации биатлона, а не КГБ. И правящий могилевский клан генералу оказался не по плечу. Кто следующий?

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

### Беларусь і рабства

Беларусь згадана ў дакладзе Дзярждэпартамента ЗША аб гандлі людзьмі ў спісе краінаў, якія не прыкладаюць належных намаганняў па вырашэнні гэтай значнай праблемы. У прыватнасці, гаворыцца, што «ўрад Беларусі не адпавядае мінімальным стандартам з-за недахопу рэсурсаў і карупцыі». Асабліва востра стаіць праблема сексгандлю жанчынамі. У дадзеным дакладзе названыя таксама Расія і Казахстан.

### Супраць баевікоў

Беларусь будзе дапамагаць абароне Кыргызстана ад баевікоў. Кыргызстан пакутуе ад экспансіі баевікоў, што перамяшчаюцца з Афганістана і Таджыкістана праз кыргызскую тэрыторыю да Ферганскай даліны Узбекістана. Здзяйсняюць такія пераходы яны ўначы. Таму Кыргызстан хоча закупіць у Беларусі прыборы начнога бачання.

### Сельгаспарк: шмат што стаіць

Паводле абласнога ўпраўлення статыстыкі, на Брэстчыне на стан 1 ліпеня спраўныя толькі 81% наяўных трактароў, 75% грузавых аўтамабіляў, 56% жняярак, 52% зернеачышчальна-сушыльных комплексаў, 49% зернеўборачных камбайнаў.

### Стаўленне да сексмяншыняў

Незарэгістраваная ў мінюсце Беларуская ліга свабоды сексуальных мяншыняў «Лямбда» правяла сярод мінскай моладзі апытанне, як яны ставяцца да лесбіянак і гомасексуалістаў. 58% рэспандэнтаў ставяцца да іх «абыякава», 28% — «станоўча», 14% — «адмоўна».

### Хваробы падлеткаў

Паводле Нацыянальнага даклада «Становішча дзяцей у 2001 годзе», у структуры першасных захворванняў падлеткаў ва ўзросце да 14 гадоў 69% складаюць хваробы органаў дыхання. Далей ідуць інфекцыйныя захворванні, паталогіі нервовай сістэмы, траўмы і атручванні.

### Успышкі гепатыту

Паводле інфармацыі Рэспубліканскага цэнтра эпідэміялогіі і гігіены, сёлета ўжо блізу 200 чалавек у Беларусі пацярпелі ад групавых успышак гепатыту А. Усяго было зафіксавана 18 такіх выпадкаў. Больш за ўсё на Гомельшчыне – 13.

### Напады на цэрквы

У Горках невядомыя злачынцы сарвалі і скінулі крыж з малітоўнага дома хрысціянаў Евангельскага веравызнання. Зусім нядаўна, у ноч з 22 на 23 чэрвеня, акт вандалізму быў учынены над царквой пяцідзесятнікаў у вёсцы Сінегава Старадарожскага раёна.

### НАДВОР'Е




### Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

**1420**

 



РЭПРЭСІІ

## Новая крымінальная справа за графіці

А трэцяй гадзіне ночы на 13 ліпеня ў Мінску ў раёне плошчы Калініна па падазрэнні ў нанясенні графіці былі зноў затрыманыя актывісты незарэгістраванага студэнцкага руху «Зубр». На сценах былі напісаныя лозунг «Час выбіраць!» і слова «Зубр».

Затрыманых «зубраўцаў» даставілі ў Першамайскі РУУС Мінска, дзе была ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле 218 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (пашкоджанне маёмасці). Праўда, пакуль што сябрам «Зубра» абвінавачванне не прад'яўлялася: іх дапытвалі па справе ў якасці сведкаў. Але супрацоўнікамі міліцыі была праведзеная экспертыза на наяўнасць часцінкаў фарбы, якой былі зробленыя графіці, на руках і вопратцы затрыманых. Наступны допыт «зубраўцаў» адбудзецца сёння, 16 ліпеня.

Алесь КАТОВІЧ

## Белорусская оппозиция — президенту Лукашенко: «За базар ответишь!»

Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)

Медвежью услугу оказал Александру Лукашенко директор витебского фестиваля «Славянский базар» Родион Басс, который на пресс-конференции заявил, что именно «благодаря А.Лукашенко на центральной концертной площадке фестиваля – Летнем амфитеатре – будет установлена уникальная звукоусиливающая техника, аналогов которой нет ни на одной концертной площадке СНГ. Это подарок президента фестивалю. Теперь в полной мере воплотится наша идея о «живом» исполнении участниками фестиваля своих произведений».

Ряд конкурентов А.Лукашенко намерены потребовать от него декларацию, в какую сумму обошелся «подарок президента фестивалю» и из каких средств он финансировался.

Если речь идет о бюджетных средствах, то в Центризбирком будет подана жалоба на незаконную досрочную агитацию со стороны Р.Басса. Если же это деньги из личного президентского фонда, то А.Лукашенко будет обвинен в подкупе избирателей — зрителей «Базара».

ЭКРАН

## На БТ — правінцыйныя «штучкі»

З Магілёва і Гомеля прыкамандзіраваныя зараз да Агенцтва тэленавінаў (АТН) у Мінску журналісты Павел Тухто і Святлана Канапацкая. Разам з палітаглядальнікам Яўгенам Мялешкам менавіта гэтая тройка абслугоўвае візіты Аляксандра Лукашэнкі. Часовую адстаўку ад «цела» атрымалі А.Ладуцька і І.Хрушчова, яшчэ раней – С.Дабрыянік. Справа, аднак, не ў страце «салаўямі» голасу. Зараз спатрэбілася змыць з атачэння прэтэндэнта ў кандыдаты сталічны макіяж. На экране мусяць быць твары шараговых выканаўцаў, каб не адцягваць увагу электарату ад героя кожнай перадачы.

Галіна БАРАВАЯ

## Зайздрасць

Пісаў ужо некалі пра гэта, але тэма не знікае і толькі набывае злабадзённасць. А свядомы беларус мусіць бачыць не толькі лепшыя, але і горшыя якасці сваёй нацы. Таму, даруйце мне, хачу сказаць колькі слоў пра тое, што нам замінае стаць кансалідаваным і моцным еўрапейскім народам. А гэта – зайздрасць – «хвароба чырвоных вачэй», як яе завуць кітайцы. Кепская такая хіба на розных узроўнях жыцця. Адкуль і калі яна прыкінулася да беларусаў – сказаць цяжка. Магчыма, што была адвеку, калі яшчэ Бог дзяліў людзям абшары. І наканаваў нам ад яе пазбавіцца, каб набыць шчасце і стаць народам. Мусіць таму беларусам і шчасця няма, што зайздросцяць адно аднаму?

Разбуральную моц зайздрасці мы можам лёгка прасачыць у шматлікіх бойках і спрэчках шляхты, у лакальных войнах ды сутычках. Колькі разоў так было: на краіну напалі ворагі, выйсце толькі ў дружным і смелым паспалітым змаганні, а беларусы паміж сабой пачынаюць высвятляць, хто з іх у тым рушанні будзе галоўным. Каб толькі нікому не перадаць гонару. За аўтарытэт, звычайна, лічаць якога-небудзь замежнага валацугу, ды толькі не свайго хлопца. Маўляў, як гэта так – такога як я, ды паставіць на чале, ды даць яму тавую павагу? А я чым горшы? Не, я лепей буду сам сабе начальнік, а ён – сам сабе. А калі ўсё ж паставяць нада мной, дык я яму пакажу, хто тут галоўны. Ён тады паскача!

Але найбольшую шкоду зайздрасць прыносіць на бытавым узроўні, бо прымушае беларуса прыніжаць і бэсціць усё сваё, роднае. Напрыклад, тутэйшы, наш, родны, беларускі дзядзька нешта вынайшаў альбо напісаў сусветна геніяльнае. І што далей? А далей – пачынаецца наш менталітэт. Чалавек іншай нацыянальнасці парадаваўся б за земляка. Ганарыўся б ім, ды іншым распавядаў. А наш зайздроснік пачынае шукаць хібы, крывіць губы, строіць кепікі ды плявузгаць пра генія абы-што. І калі такім чынам прынізіць, тады ўжо маркуе, што з геніем зраўняўся.

А колькі энергіі вызваляе зайздрасць, калі трэба грошы дзяліць! Між іншым, уся улада Лукашэнкі да гэтага часу трымаецца выключна на зайздрасці.



Усе спецслужбы, калі хочуць пасварыць паміж сабой апазіцыйных палітыкаў, падкідаюць ім для сваркі грашовыя праблемы. І вельмі часта дабіваюцца поспеху! Напрыклад, быў аднойчы ў нас лідэр супрацьву пасля «Маршу Свабоды». А потым яму шапатнулі, што без яго падзялілі нейкія грошы. І досыць! На наступны дзень лідэр распачаў сваю асобную непрымірымую барацьбу супраць былых таварышаў. Якую вядзе да гэтага часу.

Ведаюць беларусы пра гэтую сваю заганную рысу, але пазбаўляцца ад яе пакуль што не спяшаюцца. Сядзяць небаракі кругам, пазіраюць адно на аднаго, спрэс усе галадранцы, абкрадзеныя, падманутыя, расцярушаныя, а ўсё адно – зайздросцяць і свараць. Так і вядзецца...

Аляксандар ДУБРАВІН

## На «БАЗАРЕ» пройдет гала-концерт Путина, Кучмы и Лукашенко

*Последний на витебской сцене отметит 7-летие своего правления*

Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)

Впервые в программе Международного фестиваля искусств «Славянский базар в Витебске» появится новая концертная программа – «День Дружбы братских народов». Об этом на пресс-конференции после заседания оргкомитета фестиваля в Витебске сообщил вице-премьер Беларуси Михаил Демчук.

По его словам, «решение о проведении концерта появилось за две недели до начала фестиваля, и это будет грандиозный гала-концерт, в котором примут участие самые известные исполнители из трех стран» — Александр Лукашенко, Владимир Путин и Леонид Кучма. М.Демчук отметил, что «помимо участия в концерте состоится их неофициальная встреча».

По словам организаторов фестиваля, «основной проблемой в подготовке фестиваля является хроническое недопоступление предусмотренных из бюджета Союзного государства средств. Только вчера на счет фестиваля была перечислена белорусская доля финансирования. Доля России пока еще не поступила». По мнению директора «Славянского базара» Р.Басса, «своевременное финансирование фестиваля, за 3-4 месяца до его начала, позволило бы сэкономить до 50 процентов предусмотренных средств». Директор фестиваля сообщил, что «сам фестиваль пройдет с 19 по 26 июля. Церемония торжественного открытия, в которой примет участие А.Лукашенко, пройдет 20 июля. Именно в этот день 7 лет назад он вступил в должность президента Беларуси.

## Дазвол на сустрэчу са Шчукіным

Начальнік Камітэта выканання пакаранняў МУС С.А.Кадушкін даў згоду, каб кіраўніцтва Беларускай асацыяцыі журналістаў наведала пазаштатнага карэспандэнта газеты «Народная воля» Валерыя Шчукіна, які адбывае пакаранне ў Жодзінскім СІЗО. Прэс-служба МУС паведаміла пра гэтым, што сустрэча дазволена ў якасці выключэння. З сённяшняга дня В.Шчукіну можна атрымліваць і недзяржаўную перыёдыку.

Беларуская асацыяцыя журналістаў атрымала дазвол на сустрэчу праз 2 гадзіны пасля таго, як падчас прэс-канферэнцыі міністра ўнутраных справаў У.Навумава кіраўніцтва БАЖ публічна запатрабавала сустрэчы са сваім калегам.

Гэта першая прэс-канферэнцыя міністра ўнутраных справаў, якая адбылася ў Нацыянальным прэс-цэнтры і была адкрытая для ўсіх журналістаў. На папярэдніх, падчас якой і адбыўся інцыдэнт, за які В.Шчукін асуджаны на трохмесячнае зняволенне, у рэжымны будынак МУС журналісты запрашаліся паводле адмысловых спісаў.

Прэс-служба ГА «БАЖ»

ФОТАФАКТ

Фота IHEX/ProMedia

● Супрацоўнікі міліцыі падчас камбінаванай міліцэйскай эстафеты, што прайшла ў Мінску 14 ліпеня.

## Магіла для адходаў

У Чачэрскім раёне, што на Гомельшчыне, да 2003 года павінен быць пабудаваны комплекс па перапрацоўцы і захаванні небяспечных адходаў прамысловасці.

Штогод прамысловасць пасля сябе пакідае больш за 23 мільёны тонаў адходаў. З гэтай колькасці далей у якасці другаснай сыравіны выкарыстоўваецца каля 3,5 мільёнаў тонаў, астатнія – накопліваюцца з году ў год. Такім чынам, на канец 2000 года аб'ёмы захаваных адходаў прамысловасці дасягнулі 700 мільёнаў тонаў.

З агульнай штогадовай колькасці прамысловых адходаў 140 тысяч тонаў – небяспечныя. З-за адсутнасці дэ'ектаў па іх утылізацыі яны згрувашчваюцца на тэрыторыях прадпрыемстваў, што, натуральна, з-за іх таксічнасці небяспечна для людзей і падвышае магчымасць надзвычайных здарэнняў на прадпрыемствах.

Са словаў кіраўніка аддзела дзяржкантролю за абыходжаннем з адходамі Аляксандра Клопава, Чачэрскі комплекс спраектаваны ў 1991 годзе пад патрэбы Гомельскай вобласці і разлічаны на перапрацоўку 30,9 тысячы адходаў штогод.

Пераважная частка адходаў – з хімічнай прамысловасці. Найбольш небяспечныя з іх будуць хавацца, а тыя, што маюць каштоўную частку, будуць перапрацоўвацца. Гэта нафтаўтрымліваючыя адходы, растваральнікі, пластмасы, непрыдатныя пестыцыды, адпрацаваўшыя сваё аўташыны, шчолачныя і кіслотныя адходы, карбідны глей, адходы гальванічнай вытворчасці, шклабой.

Алена ЛАБАНАВА

ДЗЯРЖАВА

## Ператасоўка ва ўладзе

Каб павялічыць штат і ўмацаваць фінансава ідэалагічны штаб Брэсцкага аблвыканкама, распараджэннем яго старшыні В.Далгалёва ліквідаваныя ўпраўленне гандлю і ўпраўленне па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў. Вызваленыя больш як 20 чалавек. А новыя вакансіі адкрываюцца ва ўпраўленні інфармацыі і сацыяльных адносінаў, функцыі якога зараз звужаныя да цэнзуры над СМІ і кантролю над агітацыйнай кампаніяй у вобласці.

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Немцы даюць бясплатныя лекі

Пасля Мінска і Віцебска Брэст стаў трэцім па ліку горадам у Беларусі, дзе пачала працаваць дабрачынная аптэка бясплатных лекаў. На першым часе яна абслугоўвае былых вязняў фашызму, што ад 70 гадоў і старэй. Аднак ужо на адкрыцці гэтай установы прыйшлі вельмі многія хворыя і нямоглыя берасцейцы, якія скардзіліся на немагчымасць атаварыць так званыя льготныя рэцэпты ў дзяржаўных аптэках.

Епіскап Клаус Айбах і пастыр Крыштаф Гайст ад імя фундатараў гуманітарнага праекта з Нямеччыны гаварылі пра будучае пашырэнне дапамогі, каб пазбавіцца дэфіцыту, тым больш што зараз на тэрыторыі Брэсцкай вобласці налічваецца каля 22 тысячаў былых вязняў канцэнтрацыйных лагераў і прымусовых работаў на чужыне.

Мікола НЯЗЛОМНЫ

## Самы кароткі «Магутны Божа»

Гран-пры 9-га Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа» ў Магілёве атрымаў хор Беларускай акадэміі музыкі, які за сваю перамогу атрымае 1.000 долараў.

Усяго ў сёлетнім фестывалі «Магутны Божа» ўдзельнічалі 20 харавых калектываў з Беларусі, Расіі і Польшчы. Фестываль захаваў свае экуменічныя рамкі — у ім удзельнічалі прыходскія хоры і праваслаўныя, і каталіцкі, і пратэстанцкі. 9-ы фестываль духоўнай музыкі ў Магілёве стаў самым кароткім за ўсю гісторыю свайго існавання: ён цягнуўся ўсяго тры дні. Нават па «сціснутай» праграме закрыццё фестывалю меркавалася правесці 15 ліпеня, аднак з-за адсутнасці сродкаў арганізатарам давялося пайсці на яшчэ большыя скарачэнні.

Як заявіла на прэс-канферэнцыі ад імя арганізатараў начальнік упраўлення культуры Магілёўскага гарвыканкама Антаніна Шаркова, 10-ы, юбілейны фестываль «Магутны Божа» плануецца правесці на больш высокім узроўні, засяродзіўшы ўсе магчымыя грашовыя сродкі і намаганні людзей. У той жа час другі заснавальнік фестывалю — Магілёўскі касцёл Святога Станіслава – катэгарычна выступае супраць камерцыялізацыі гэтага музычнага свята. Ксёндз Раман Факсінькі ўпэўнены, што, нягледзячы на ўсе фінансавыя цяжкасці, прыгажосць фестывалю «Магутны Божа» менавіта ў тым, што яго робяць энтузіясты, а калектывы прыязджаюць выконваць духоўную музыку свабодна і з «адкрытым сэрцам».

Канстанцін УВАРАЎ

## А калі што — адключым тэлефон!

Тэлефон Віктара Карнеенкі, гомельскага абласнога каардынатара ініцыятыўнай групы грамадзянаў па вылучэнні кандыдатам на прэзідэнта Беларусі Сямёна Домаша, раптам адключыўся ў самы разгар збору подпісаў і ўжо тыдзень не працуе. Штодзённыя званы да гомельскіх тэлефонных службаў аніякага плёну не даюць. Тэлефаністы абмяжоўваюцца досыць цьмянымі і супярэчлівымі тлумачэннямі.

Юрый ВАРАНЕЦКІ

ФЕСТЫВАЛЬ

## Шматдзетныя і гумарныя

14 ліпеня ў Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці адкрыўся двухдзённы абласны фестываль гумару «Спораўскія жарты».

Удзел у ім бяруць звыш 300 артыстаў. Прысутнічаюць госці з Аўцюкоў Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці — вёскі, дзе праходзіць рэспубліканскі фестываль гумару.

На ўездзе ў вёску Спорава ўстаноўлена імправізаваная мытня: каб праехаць на фестываль, трэба прадэманстраваць пачуццё гумару. 14 ліпеня госці і ўдзельнікі фестывалю будуць ездзіць па розных вёсках Бярозаўскага раёна і весяліць народ песнямі і жартамі. 15 ліпеня ў Споравe пройдзе конкурсная праграма для ўдзельнікаў і ўзнагароджанне лаўрэатаў.

У вёсцы Спорава знаходзяцца унікальныя прыродныя аб'екты рэспубліканскага і сусветнага значэння (возера Спораўскае і балота Спораўскае). Сама вёска мае даўнюю гісторыю. Спораўцы, як называюць сябе мясцовыя жыхары, лічаць, што вызначаюць незвычайным аптымізмам і жыццярадаснасцю — практычна ў кожнай сям'і па 5-10 дзяцей.

Валянціна КАЗЛОВІЧ

МОДА

## Нашы на подыуме ў Берліне

Маладыя беларускія дызайнеры, пераможцы розных конкурсаў авангарднай моды, прадставяць свае работы на выставе моды «Вялікі курфюрстэндам», якая пройдзе 18 жніўня ў Берліне. Прадстаўнікі Беларусі адправяцца туды па запрашэнні Берлінскага цэнтра моды.

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску мастацкі кіраўнік Цэнтра сучаснага стылю і моды *«Universum models»* Аляксандр Варламаў, берлінская выстава моды традыцыйна пройдзе на самым доўгім подыуме свету — больш за 1 кіламетр. Беларускія дызайнеры прадставяць 100 сваіх мадэляў, якія будуць дэманстраваць манекеншчыцы мінскага Цэнтра сучаснага стылю і моды.

Па словах Варламава, хаця цэнтр з'явіўся нядаўна, «за яго кошт» былі выраблены 23 калекцыі беларускіх мадэльераў. Сваёй галоўнай мэтай цэнтр бачыць падтрымку, у тым ліку фінансавую, маладых дызайнераў.

Маша ПЯТРОВА



 

